# ЗЬМЕСТ:

Валеры Маракоў
АЛТУЛЬ.
ДЗЕ ПАЛЫХАЮЦЬ ДОМНЫ

◆

Шыдлоўскі
ПУЦІЛАЎЦЫ РУЙНУЮЦЬ МЕЖЫ
нарыс

◆

Ефім Садоўскі
СЫНЫ ПРАЦОЎНАГА НАРОДУ
нарыс

◆

Міхась Чарот
ЧЫРВОНААРМЕЙСКАЯ верш

◆

Л. Клімчук
АРМІЯ ЧЫРВОНАЯ ЎСІХ МАЦНЕЙ
нарыс

◆

„ПЕРШАЯ КОННАЯ" БДТ 2

◆

Кальтофэн
ДА НАВЕДВАНЬНЯ ЧЫРВОНАГА ФЛЁТУ

◆

Іл. Барашка
БЕЛАРУСКІ ТЫДЗЕНЬ У МАСКВЕ

◆

СЯРОД УЗГОРКАЎ І ПАЛЁЎ

◆

УСЕАГУЛЬНАЕ НАВУЧАНЬНЕ

◆

НА ХВАЛЯХ КАПІТАЛІСТЫЧНАГА СЬВЕТУ

На вокладцы
ЧЫРВОНААРМЕЙЦЫ
КАЛЯ ВІНТОВАК

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!
ЛЮТЫ 1931

# Чырвоная Беларусь 3

АДРА РЭДАКЦЫІ: САВЕЦКАЯ, 5
Тэл. № 17—0?








ВАЛЕРЫ МАРАКОЎ

## Адтуль, дзе палыхаюць домны

Адтуль,
дзе агнём палыхаюць домны,
Адтуль,
дзе зьяднаны мільёны сіл,—
Воляй партыі нязломнай,
Што ў вагні
і ў крыві што
Кастрычнік расьціў,
Паўстае
ў бляску цудаў
наш дзень няутомны.
І грыміць
і ўзьнімае напружныя рукі,
Каб рэспубліцы даць
і жалеза
і сталь.
З гэтым днём мільёны,
пад дым
і пад грукат,
Здабываюць
гарачы, як сэрца, мэталь...
І адтуль,
дзе прыходзяць, нібыта, з жалеза,
І дзе вочы людзей—
дыямэнтаў гульня,

Дырыжабль,
што вартуе,
Савецкія межы.
Прывітаў комсамолец,
рабочы—юнак.
А таму
што наш вораг,
і бачыш, бяз грыму,
Ў дзікай злосьці на нас
свае пальцы пагрыз,—
Пабудуем
яшчэ дырыжабль не адзін мы,
Каб бясьпечней
тварыць
соцыялізм!







# ПУЦІЛАЎЦЫ РЭЖУЦЬ МЕЖЫ

**Нарыс Ус. Шыдлоўскагa**

I.

НА ВУЛІЦЫ гудуць правады.

Гэта правады радыё-трансьляцыйнага вузлу, што пабудаваны ў колгасе „Новы Шлях", Сьмілавіцкага раёну.

У мінулую восень, 1929 г., у Караваеўскай школе адбыўся сход сялян.

Адзінока, на высокім беразе Сьвіслачы, стаіць гэта школа і прыслухоўваецца, аб чым гавораць хвалі бурлівай рэчкі. Кожную восень сюды прыходзяць дзеці, каб навучыцца разьбіраць, што напісана ў кнігах.

Сход быў надзвычайны. Нават Сьвіслач па інакшаму гнала свае бясконцыя хвалі, Сяляне вёскі Караваева арганізоўвалі колгас. Многа спрэчак было, многа заядлай бабскай сваркі сыпалася на галовы мужыкоў. Асабліва „стараліся" кулакі Шпілеўскія.

— Нельга ў нас колгасу будаваць. На хутары пайсьці—куды лепш,—гаварылі яны.

Але цьвёрда пастанавіла бедната:

— Інакшага выхаду, чым колгас, няма, гэта нам зразумела. Гэтак гаворыць наша партыя. І мы за партыяй пойдзем.

І пайшлі...

У жорсткай барацьбе з кулацтвам арганізавалі колгас „Новы Шлях".

Энтузіязмам гарэлі вочы беднякоў-колгасьнікаў. У іх сьвяцілася вера і ўпэўненасьць у новыя формы жыцьця—жыцьця ў колгасе. Маладая гаспадарка з 36-ці бядняцка-серадняцкіх сем'яў адразу прыступіла да працы.

* * *

У „Новы Шлях" прыслалі 25-цітысячніка тав. Сырцова на сталую працу. Цяжкая была спачатку работа, але ўдзячная т. Сырцоў, сьлесар, рабочы—моцны і ўпарты ў рабоце,—энэргічна ўзяўся за будаваньне колгасу. Ён добра ведае, які наказ яму далі рабочыя, адпраўляючы на работу ў колгас. Ён добра ведае лінію партыі. З усёй рашучасьцю, з усёй адданасьцю справе замацоўваў ён позыцыі колгасу.

Вакол яго згуртавалася моцнае ядро з беднякоў і комсамольцаў. Пічуха Сак—сакратар комсамольскай ячэйкі—лепшы дапаможнік у працы т. Сырцова. І гэта моцнае ядро было ініцыятарам усіх новых пачынаньняў, было энтузіястам новае справы. А пасьля з гэтага ядра склалі ўдарную брыгаду. І паўдарнаму працавала ўдарная. Ці трэба ў млын завесьці, ці плуг паправіць, ці коняй дагледзець—усюды былі ўдарнікі першымі.

Надышла вясна. Згінуў сьнег, і чорная зямля, напоеная да адказу вадою, чакала запладненьня. Шырокія прасторы, ледзь вокам акінуць, ляжалі спакойна і нейкая асаблівая урачыстасьць лунала на іх барознах. Яшчэ нядаўна, год назад, гэтыя прасторы былі ўкрыты быльніковымі межамі, і, праліваючы пот, караваеўцы аралі свае доўгія, вузкія шнуркі.

А сягоньня зусім інакшы выгляд іх.

Калёна пуцілаўцаў варочае цаліну, разрываючы межы і разам з гэтым разрывае старыя дзедаўскія ўстоі гаспадараньня.

Колгасьнік Людчык, стары, з вялікай лысінай на галаве, вышаў у поле, дзе гулі трактары.

— А-ей, што-та робіцца?! Столькі зямлі адразу аруць! Бывала, даўней дзён восем над сваёй палоскай корпаешся.

— На тое, дзед, і колгас арганізавалі, каб не корпацца, а араць, — адказаў трактарыст Якубовіч і, падбавіўшы нафты, яшчэ глыбей запусьціў плугі.

Пахла сьвежая ральля. І пачалі колгасьнікі раскідаць па ёй насеньне. Радавая сеялка саромліва пакацілася па полі. Тут яна першая ластаўка.



* * *

Набліжалася 1-е мая. У гэты дзень адчыняюць у колгасе „Новы Шлях" радыё-трансьляцыйны вузел. Закіпела падрытоўчая работа. Комсамольцы мобілізавалі моладзь і дружна ўзяліся капаць ямы для слупоў.

А праз тыдзень загулі правады... І ў хаце колгасьнікаў першы раз у жыцьці прагучэлі словы:

— Слухайце, радыё Менск... На хвалі 700 мэтраў...

І мэлёдычнымі гукамі разьліўся пасьляабедзены концэрт Белрадыёцэнтру.

— Вось дык штука... І няўжо гэта з Менску бяз усякага дроту чуваць?—задавалі сабе пытаньне колгасьнікі.

У колгасе праз радыё-вузел перадаецца свая радыё-газэта. Усе навіны колгасу, усе здарэньні, усе дасягненьні пладатворнай колгаснай работы разьбягаюцца па дратох у кожную хату.

II

Не па душы быў кулакам колгас. Яны чым толькі маглі—шкодзілі.

У адну чэрвеньскую ноч над колгасам ўзьвіліся доўгія языкі чырвонага пеўню. Трашчэлі ў полымі яловыя бярвеньні, і снапы іскраў ляцелі ўвысь, пераляталі на другія будынкі і аблівалі іх агнём. 17 гаспадарак з усім дабром выляцелі дымам. Але гэта не суняло колгасьнікаў. Яны яшчэ шчыльней згуртаваліся. А да іх далучылася 12 новых гаспадарак. І ўсе дружнай колектыўнай працай узяліся лячыць раны, нанесеныя клясавым ворагам. Купілі дом у суседняй вёсцы, перавезьлі ў колгас і збудавалі. А ў гэты дом пагарэльцаў усялілі. Некаторыя самі хаткі часова пабудавалі, і зноў забурліла жыцьцё ў колгасе.

Ня суняць кулаку бурнага ўздыму колгаснага руху.

Дарэмны ўсе іх імкненьні перашкодзіць новым паросткам, калі гэтыя парасткі з кожным днём вырастаюць у вялікія волаты-гіганты.

З кожным днём расьце і „Новы Шлях“.

А на вуліцы гудуць правады радыё-вузлу.

І пенаю коцяцца грозныя хвалі Сьвіслачы, набраклыя помстаю да тых, хто імкнецца суняць маладое, сьветлае жыцьцё.

III

Дасьпявала збажына...

Час уборкі — ударны час. І колгасьнікі па-ўдарнаму ўзяліся за працу. Арганізавалі брыгады па ўборцы ўраджаю. Асабліва вызначалася сваёй працай брыгада жанчын. Яна давала ўзоры працы.

Неяк пяшчотна абліваў звон пачуцьці, які кожную раніцу клікаў на працу. І з усіх канцоў сяла ішлі дужыя маладыя колгасьнікі і колгасьніцы, чырвонатварыя з чырвонымі хусткамі. Весела і ахвотна працаваць гуртам на полі. А работа спорная...

Дзякуючы ўмелай пастаноўцы работы, на полі ніводзін колас не загінуў дарма. Усё сухое было сабрана і зьвезена на гумно.

Тымчасам і восень надышла. Прыгожая, багатая восень. Шмат дабра і багацьця яна прынесла колгасу. У сьвята ўраджаю і колектывізацыі сабраліся колгасьнікі ў школу, у тую самую школу, дзе яны першы раз збудавалі колгас, падлічыць свае вынікі пладатворнае, плённае працы.

На сход прышлі і адзінаасобнікі паглядзець, як будуць колгасьнікі праводзіць сваё сьвята.

— Кажуць, прэмію нейкую будуць даваць ударнікам,—шапталіся неколгасьнікі.

— Але, але... І я чула,—дадавала канцавая Матруна,—за лепшую працу.

А на сход усё ішлі ды ішлі адзінаасобнікі. Ледзьве дзьверы льга зачыніць.

— Хрысьціна, гэта ты на сход прышла? Ты-ж казала, што і глядзець ня будзеш на колгасьнікаў,—сьмяялася суседка суседцы, якая заракалася ніколі не глядзець па колгасьнікаў.

— Калі-ж, любка, цікавасьць бярэ... Сама ведаеш... Трэ' паглядзець, што колгасьнікі задумалі. Цяпер толькі іх сьвяты і цікавыя, а нашы, ліха іх ведае, нейкія сумныя.

Старшыня колгасу пачаў справаздачу:

— Колгас у гэтым годзе здае дзяржаве 15 тон хлеба, 110 тон бульбы. Колгас мае чыстага прыбытку 20.000 рублёў.

Дзіўна было для адзінаасобнікаў. Гэтыя тысячы сьвідравалі наскрозь іх мозг. Ня прывыклі яны лічыць на тысячы. А колгас за адзін год тысячамі варочае.

— Што ім цяпер адходзіць,—гаварылі адзінаасобнікі,—папрацавалі толькі адно лета і такі прыбытак маюць.

— Здаецца-б, вот ужо запісаўся-б у колгас,—кажа стары Галубовіч,—але жонка... Ніяк не пераканаць дурную бабу... Але быць ня можа, калі ўвясну ня буду ў колгасе.

А на полі гулі трактары, яны мяшалі зямлю пад жыта. Іх гул далёка чуваць быў і аддаваўся рэхам у Караваеўскіх хмызьняковых балотах. А праз некаторы час на гэтых прасторах у 75 гектараў зелянела жытнёвая рунь. Гэта рунь песьціла колгасьнікаў, надавала ім яшчэ большай рашучасьці і энэргіі за новыя перамогі колгасу.





# СЫНЫ ПРАЦОЎНАГА НАРОДУ

Нарыс Ефіма САДОЎСКАГА

Я—сын працоўнага народу... У напруджаную цішыню адрыўвіста падаюць гэтыя словы.

— Пра-цоў-на-га на-ро-ду,—падхоплівае іх рэха і далёка разносіць адсюль, ад гэтых каменных сьцен вялікага пляцу.

Пляц—месца парадаў. Міма маленькай драўлянай трыбуны, насьпех пабудаванай да гэтых сьвяточных дзён, трыбуны, кая схавалася сярод усхвалёванага мора радасьці, сьмеласьці і сілы, нібы выслы ў вялікім сапраўдным бурлівым моры,—ужо прайшло шмат войска...

Дзеці працоўнага народу, маладыя чырвонаармейцы ў гэтыя дзень аддавалі прысягу вернасьці рабочай клясе, камуністычнай партыі.

Кавалерысты, пехацінцы, артылерысты.

У адной з самых першых калён параду, у колёне, складзенай з стройных шэрагаў, нібы сапраўды вылітых з аднаго цэлага, ідуць маладыя камандзіры. Маладыя камандзіры—школы АБВШ імя ЦВК БССР.

Яны сёньня аддавалі прысягу вернасьці сваёй клясе, сваёй партыі.

* * *

Усе дзесяць гадоў жыцьця школы сатканы з дзён бадзёрых песень, упартай працы з кнігай і стрэльбай.

Тысячы пролетарскіх камандзіраў ужо дала школа Чырвонай арміі... Вытрыманыя, палітычна падрыхтаваныя, яны яднаюць Чырвоную армію ў моцны, магутны, адзіны калектыў.

Камандзіры школы апраўдаюць сваю назву ня толькі ў дні мірнай вучобы.

Нядаўна ў дні кітайскага канфлікту, калі капіталісты імкнуліся справакацыраваць СССР, і Чырвоная армія была прымушана адбіць удар,—камандзіры—выхаванцы Аб'яднанай вайсковай школы імя ЦВК БССР змаглі з гонарам даказаць сваю загартаванасьць і ў баявых абставінах.

* * *

Дзесяць год жыцьця школы саўпалі з XIII гадавінай Чырвонай арміі. Школа амаль прайшла ўвесь гэраічны шлях існаваньня арміі. У дні юбілею ўспамінаюць пройдзены шлях:

„Гэтага ліку ў 17 гадзін эшалён даручаных мне курсаў прыбыў у г. Менск.

Неабходнасьць хуткага стварэньня курсаў патрабуе ад нас максымальнай напружанасьці сіл. Цяжка, вельмі цяжка ў разгромленым белапалякамі Менску стварыць узорную вайсковую школу, але дружнымі дапамаганьнямі ўсіх курсантаў будзе зроблена і немагчымае.

Усе мы павін ны і аддадзім нашы сілы і, я ўпэўнен, што слова „немагчымае" ня будзе мець месца ў нашай рабоце.

Сьмела за справу дружнай пралетарскай сям'ёй. Няма сьвят, няма гадзін, а ёсьць захопліваючая па сваёй цікавасьці справа і маладыя ідэёвыя сілы".

Гэткімі гарачымі словамі дзесяць гадоў таму назад быў напісан гістарычны загад, які палажыў пачатак працы ў школе. Калі мы пачалі абмалёўваць шляхі разьвіцьця школы, дададзім: У маі 1921 г. курсы-школа атрымоўвае назву камандных, і з гэтага часу пачынаецца ўпартая праца па падрыхтоўцы новых камандных кадраў для Чырвонай арміі.

Яшчэ праз два-тры гады школа атрымала ганаровую назву імя ЦВК БССР, імя пралетарскага ўраду. Гэту назву ў сваім практычным жыцьці школа цалкам апраўдала.

Дзесяцігодзьдзе свайго існаваньня, 13-годзьдзе існаваньня Чырвонай арміі маладыя камандзіры сустрэлі шэрагам бальшавіцкіх дасягненьняў.

Школа цалкам перавяла сваю працу на ўдарныя тэмпы. Яна ўдарная. Баявыя паказчыкі дасягненьняў сьведчаць аб ударнасьці. У 1930 годзе школа заняла першае месца па ўсім выглядам баявой падрыхтоўкі ў Беларускай вайсковай акрузе.

Школа атрымала сьцяг Рэўваенсавету.

Курсанты—ня толькі лепшыя чырвонаармейцы ў Беларускай вайсковай акрузе, яны ня раз атрымоўвалі прызы і ва ўсесаюзным маштабе.

Лепшыя ўдарнікі школы ў дні сьвяткаваньня дзесяцігадовага юбілею атрымалі падарункі ад ЦВК БССР. Шэрагі школы ведаюць узорную працу. Ударнікаў-чырвонаармейцаў многа. Яны паказваюць лепшыя адносіны да вучобы, яны даюць багатыя вынікі баявой падрыхтоўкі.

Школа актыўна ўдзельнічае і ў сацыялістычным будаўніцтве. Мінулай зімой курсанты школы арганізавалі масавы выхад у вёску. Яны ўтварылі два калгасы. 43 проц. сябраў сям'і курсантаў уцягнуты ў калгас.

Курсанты трымаюць штодзённую практычную сувязь з роднымі калгасамі, дапамагаюць ім сваімі парадамі па-бальшавіцку будаваць новую сацыялістычную сельскую гаспадарку.

Юбілей школы прайшоў у надзвычайна ўрачыстых абставінах. Рэўваенсавет БВА аддаў загад за № 5, у якім адзначыў, што школа дала лепшыя баявыя паказчыкі...

У памяшканьні тэатру „Культура" адбываўся ўрачысты юбілейны вечар.

Гэта быў вечар агляду пройдзенага шляху, гэта быў вечар узмацненьня сувязі з заводамі, фабрыкамі і калгасамі.

„Энэргія", „Кастрычнік", „Віцебскі Чырвоны мэталіст", пралетары Барысаўшчыны прысылалі на юбілейнае сьвята сваіх дэлегатаў, якім ударнікі сказалі, што ўдарнікі варштатаў заўсёды гатовы прыйсьці на дапамогу ўдарнікам стрэльбы, калі гэтага патрабуе краіна Саветаў, для абароны сваіх межаў ад нападу ворага.

У дні юбілею школа атрымала вялікую ўзнагароду.

Да імя аб'яднанай ўдарная прыбавілася яшчэ адно слова:

„Чырвонаштандарная"

ЦВК БССР узнагародзіў школу ордэнам працоўнага Чырвонага сьцягу.

Сыны працоўнага народу вучацца ў Беларускай аб'яднанай школе кіраваць Чырвонай арміяй, арміяй дыктатуры пралетарыяту.

# ЧЫРВОНААРМЕЙСКАЯ

ВЕРШ МІХАСЯ ЧАРОТА

Далёка песьні нашы чутны
Пра дні вялікіх перамог.
Чырвонай арміі магутнай
Разьбіць ніхто ў баёх ня змог.

Былі мы босы і разьдзеты,
Сьмерць вораг крыльлямі прасьцёр,—
Мы за Рэспубліку Саветаў
Пашлі аддаць сваё жыцьцё.

Мы помнім Дон і Украіну,
І сьнежны стан каўкаскіх гор,
Пайшлі Сібір—лясы, даліны,—
Чырвонаармеец быў герой.

І Беларусі лес шумлівы
Спазналі мы ў дваццаты год.
Бой за Кранштат ў крыві заліву,—
Адважны, слаўны быў паход.

А банды белых генэралаў,
Француз ён, рускі ці паляк,
Ад бурнай Віслы да Уралу
Чырвоных ведалі ваяк.

Зара комуны узьнялася
Сьвяціць над намі заўсягды,
Вартуюць сьцяг рабочай клясы
Чырвонай арміі рады.

Мы як адзін з рабочым выйдзем,
Каб зьнішчыць фронт цяжкіх блёкад,—
На барыкады будаўніцтва,
Замест крывавых барыкад.

Нас ня спужае люты вораг,
Гатовы ў новы мы паход,
Сухім заўжды трымаем порах,
І мы мацнеем з году ў год.

Красуй Рэспубліка Саветаў—
Мы за цябе гатовы ў бой,
Надыйдзе час—на цэлым сьвеце
Фашыстых спынім мы развой.

Лясы, балоты, стэп і горы
Ня страшны ў будучых баях,
Зямлю мы вызвалім і моры,—
Комуны сьвет—вось наш маяк!

7/II-31 г.



АБВШ Разьвітаньне з таварышамі



# АРМІЯ ЧЫРВОНАЯ ЎСІХ МАЦНЕЙ

**Нарыс Л. КЛІМЧУКА**



ПЕРАМОЖНАЯ Чырвоная армія можа існаваць толькі пры наяўнасьці высокай сьвядомай, рэволюцыйнай дысцыпліны. Чырвоная армія – асобная армія. Яе жалезная дысцыпліна будуецца на тэй падставе, што кожны баец добра разумее тыя абавязкі, якія ён мае перад дзяржавай. Высокая палітычная сьвядомасьць байца Чырвонае арміі, які абараняе інтарэсы клясы, гэта—вялізарная перавага Чырвонай арміі перад іншымі арміямі сьвету.

Узмацоўваючы і паляпшаючы сваю вайскова-тэхнічную падрыхтоўку, Чырвоная армія адначасова бязупынна працуе над узьняцьцем палітычнай падрыхтоўкі кожнага байца і камандзіра, над узмацненьнем рэволюцыйнай дысцыпліны, над згуртаваньнем сваіх кадраў.

Без сьвядомай дысцыпліны, пабудаванай на разуменьні кожным байцом і начальнікам мэтаў вялікае барацьбы, сучасная, поўная складанымі сродкамі барацьбы, армія ня можа быць перабудавана ў той складаны, хутка працуючы баявы організм, якім яна павінна быць.

Разам з тым Чырвоная армія—самая дэмократычная армія ў сьвеце: сіла і магутнасьць яе, паміж іншым, заключаецца і ў тым, што ў ёй няма клясавага разрыву між звычайным байцом і камандзірам.

Трынаццатая гадавіна Чырвонай арміі, якая саўпадае з 50-годзьдзем жыцьця тав. Варашылава, мае ў гэтым сэнсе вялікае значэньне. Тав. Варашылаў—галоўнакамандуючы ад вар-штату, рабочы—сьлесар, стары ленінец-бальшавік, зараз правадыр Чырвонай арміі, ва ўсёй сваёй біографіі надзвычайна характарны для ўсяго каманднага складу Чырвонае арміі. Нам хочацца тут прывесьці некаторыя параўнаньні кіраўніцтва нашае арміі з арміямі капіталістычных краін.

Арміямі капіталізму камандуюць афіцэры з памешчыкаў і капіталістаў. У гэтым выказваецца той факт, што рабочыя і сяляне ў сваім гаспадарчым, соцыяльным і палітычным жыцьці знаходзяцца пад камандваньнем капіталу.

Калі народныя масы паўсталі ў Расіі супроць буржуазіі і памешчыкаў, змагаючыся за мір і зямлю, царская армія адразу развалілася ўшчэнт, бо рабочыя і сяляне не хацелі больш слухацца афіцэраў з памешчыкаў і буржуазіі.

Новая армія пачала складацца толькі тады, калі рабочыя рашылі абараняць заваяваную ўладу і фабрыкі ад белых і міжнароднага імпэрыялізму, калі сялянства паўстала на абарону зямлі, якую яны заваявалі ад памешчыкаў. Хто-ж мог тады стаць на чале новай, Чырвонай арміі?

Адкуль маглі ўзяцца камандзіры, якіх-бы слухаліся рабочыя і сяляне?

Камандаваць новай арміяй маглі толькі прадстаўнікі тае клясы, якая, скінуўшы буржуазію, вызначыла палітыку краіны. Толькі рабочая кляса магла паставіць асноўны касьцяк новага камандваньня, вакол якога ў далейшым аб'ядналіся найбольш здольныя сыны сялянства, якія на практыцы рэволюцыі пераканаліся, што яны могуць ісьці і перамагчы толькі пад кіраўніцтвам рабочае клясы.

І біографія тав. Варашылава, старога ленінца-бальшавіка, зьяўляецца лепшым узорам таго лепшага, што пераможны пролетарыят вылучыў кіраваць дывізыямі, корпусамі, арміямі, франтамі.

Нашыя камандзіры ня вучыліся ў ваенных школах, ня вучыліся і ў акадэміях, у генэральных штабах.

Тав. Варашылаў — сын нікалаеўскага салдата, які багата папрацаваў у памешчыцкіх маёнтках, рудніках і чыгунках. Ужо на шостым годзе свайго жыцьця тав. Варашылаў быў вымушаны ўласнымі рукамі зарабляць сабе на хлеб.

Тав. Карл Радэк у фэльетоне, прысьвечаным юбілею т. Варашылава, прыводзіць некаторыя дэталі з біографіі Макдональда і параўноўвае яе з Варашыл вым.

Калі правадыр ангельскіх рабочых п. Рамзей Макдональд заняў пост ангельскага прэм'ер-міністра, адна з яго знаёмых—міс Гамільтон—выдрукавала яго біографію.

Гэта была кніга, напісаная для ангельскага мешчаніна, у якога яна павінна была выклікаць павагу да першага рабочага прэм'ера. І вось у гэтай кнізе міс Гамільтон апавяда пра цудоўны характар свайго героя, пра цьвёрдасьць яго перакананьняў. Гэты бок характару містэра Макдональда ёй прыходзіцца дэмонстраваць на тым, для буржуазных пісьменнікаў некалькі няпрыемным факце, што п. Макдональд з лібэральна-пацыфіцкіх меркаваньняў супольна з лордам Морлеем быў супроць удзелу Англіі ў вайне.

Падкрэсьліўшы патрыотычныя пачуцьці, якія штурханулі яго на гэткі крок, міс Гамільтон указвае, якім павінен быў быць яго цьвёрды характар, каб узяць на сябе цяжар непопулярнасьці. „Салёны Лендану выкрэсьлілі яго са сьпісу сваіх гасьцей, некаторыя знаёмыя палохаліся яго запрашаць да сябе. Шэраг добра выхаваных патрыотаў дамагліся яго выключэньня з клюбу гульні ў гольф Лёсіматус".

Клім Варашылаў стаў на работу на заводзе пры станцыі Аўчэўскага ў 1896 г. У 1899 ён кіруе забастоўкай у чыгунна-ліцейным цэху. Забастоўка выклікала вобыск, арышт, пасьля чаго Кліма Варашылава ня толькі не запрашаюць у салёны капіталістаў, Донбасу і ня пушчаюць у клюб на гульні ў гольф, але проста ня пушчаюць яго на работу ў працягу трох год, зьмясьціўшы яго прозьвішча ў чорныя сьпісы. Калі ён трапляе на завод Гартмана ў Луганску, дык праз два месяцы паліцыя, выкрыўшы яго там, вікідае яго з Луганску. Вось іменна тады Клім Варашылаў, падагуліўшы вынікі свайго жыцьця,—а ён за 22 гады свайго жыцьця тое-сёе ўжо бачыў,—уступае ў соцыял-дэмократычную партыю.

Гэты его выпад з жыцьцёвай практыкі мусіць не апавядаў той строгасьці індукцыйнай лёгікі ангельца Міля, якая патрабуе, каб вывады былі зроблены на падставе самай вялікай колькасьці фактаў, з належнай асьцярожнасьцю, без захапленьня, бяз удзелу ў гэтай рэчы пачуцьцяў. Мы думаем, што тав. Варашылаў зрабіў свой вывад не бяз уплыву пачуцьцяў, што зусім не дазваляецца па правілах індукцыйнай лёгікі. Ён навучыўся ненавідзець капіталістаў і любіць сваіх таварышоў па катаржнай працы. Але, ня гледзячы на гэтыя недахопы, ён зрабіў свой вывад моцна, бо не зьмяняў яго да апошніх дзён.

Абараняў-жа ён гэты вывад, як вядома, ня толькі 3-гадовым беспрацоўем, але адседжваньнем па турмах і ссылкай, і мы зноў думаем, што не ўпадзем у нацыянальную абмежванасьць, лічачы, што жыцьцёвая школа тав. Варашылава мела больш сур'ёзны характар, чым тыя „пакуты", якія пераносіў „шматпаважаны"





правадыр ангельскай рабочай партыі, першы галава ангельскага рабочага ўраду, Рамзей Макдональд, які ў часе вайны пакутваў з прычыны немажлівасьці ўдзельнічаць у гульні гольф і сустракацца ў салёнах са сваімі буржуазнымі знаёмымі.

І гэтая прывычка галадаваць па тры гады, спаць на вастрожных лаўках, цягацца па этапе ў Сібір, бегчы з ссылкі, шукаць дзе пераначаваць у сялян і ў рабочых,—яна не зьяўляецца асабістаю рысаю характару тав. Варашылава, яна ўяўляе сабой той шлях улады, па якім ішлі тысячы бальшавікоў, будучых камандзіраў Чырвонай арміі. І гэты шлях стварыў у іх тыя рысы характару, якія дазволілі ім цьвёрдай рукой стварыць сялянскую армію, правесьці яе праз жабрацтва, галечу, праз паражэньні, праз спрабаваньні жалезам, агнём і вошамі. (Выбачайце, паважаны п. Макдональд, што, параўноваючы вас з нашым Наркамваенморам, ужываем гэткае нязвычайнае ў жыцьці ангельскага джэнтльмэна ўяўленьне як вош, бо яна адыгрывала вялізарную ролю ў гісторыі Чырвонай арміі, распаўсюджваючы тыфус у час грамадзянскай вайны што вельмі часта нам пагражала куды больш, чым арміі, якія ўзбройваў супроць нас ваш папярэднік і ваш паважаны колега п. Чэрчыль).

Якія рысы характару патрэбны былі для стварэньня Чырвонай арміі,—няхай даведаецца замежны чытач. Добра будзе, калі ўспомніць пра гэта і наш маладняк, чытаючы першыя радкі вайсковага паслужнога сьпісу нашага ваеннага камісару.

„Ваенную работу пачаў з атраду, арганізаванага ў 1918 г. у сакавіку пад маім камандаваньнем, які змагаўся з нямецка-окупацыйным войскам. Неўзабаве быў прызначаны за камандзіра пятай украінскай арміі, а затым камандаваў атрадамі, якія пад націскам нямецкага войска адыходзілі з Украіны на Волгу, да Царыцыну. На станцыі Ліхая адбыўся вялікі бой. Нашы атрады ў паніцы беглі ў напрамку на станцыю Белую, сустрэўшы там паўстаўшых казакаў і іх кулі.

Дзесяткі тысяч дэмобілізаваных, стомленых, абадраных людзей і тысячы вагонаў з рабочымі сем'ямі і іх маемасьць трэба было правесьці праз усхваляваны казачы Дон. Цэлых тры месяцы, акружаныя з усіх бакоў гэнэраламі Мамантавым, Фіцкаранаулавым, Дэнісавым і інш., прабіваліся мае атрады, аднаўляючы чыгуначную каляю, зьнесеную і спаленую на дзесяткі вёрст. Будуючы нанава масты, праз тры месяцы „група войска Варашылава" прабілася да Царыцыну і з гэтых і іншых часьцей была створана 10 Чырвоная армія, якой мне было даручана камандаваць".

* * *

Капіталістычная прэса за мяжой, а таксама „соцыялістычная" прэса, так званага Другога Інтэрнацыяналу, бязумоўна ўзьніме лямант з прычыны юбілею Варашылава і XIII гадавіны Чырвонай арміі. Яны лішні раз спрабуюць знайсьці „доказы" чырвонага імпэрыялізму і „агрэсыўнасьці" СССР. Няхай шумяць. Іх імкненьні зьмесьці сьляды сапраўдных натхніцеляў новай бойні народаў, новай інтэрвэнцыі супроць краіны Саветаў будуць выкрыты шырокімі масамі. На штодзенных фактах і практыцы рабочыя і працоўныя капіталістычных краін пераконваюцца, што падбухторшчыкі новай вайны сядзяць унутры іх уласнай краіны, што савецкая політыка міру непахісна, што Чырвоная армія, правадыром якой зьяўляецца Варашылаў, зьяўляецца не апошнім фактарам у гэтым паступовым змаганьні за мір, зьяўляецца верным і моцным вартаўніком мірнага соцыялістычнага будаўніцтва ў краіне Саветаў, вартаўніком герoічнай пабудовы соцыялізму дзесяткаў мільёнаў працоўных.



ПАРТРЭТ З ЧАСОЎ ГРАМАДЗЯНСКАЙ ВАЙНЫ.

# ВАРАШЫЛАЎ КЛІМ ЯФРЭМАВІЧ

## НАРКАМВАЕНМОР

НЯДАЎНА споўнілася 50 год жыцьця загартаванага байца-бальшавіка, аднаго з першых арганізатараў і правадыра рабоча-сялянскай Чырвонай арміі.

У барацьбе за перамогу Кастрычніка і ўмацаваньне заваёў пролетарскай рэволюцыі Варашылаў застаецца пасьлядоўным непахісным ленінцам.

Хай жыве цьвёрдакаменны бальшавік - ленінец — правадыр Чырвонай арміі КЛІМ ВАРАШЫЛАЎ.

# ПЕРШАЯ КОННАЯ



КОНТРАСТЫ. Старая царская казарма. „На малітву станавіся!" І армія першае краіны перияможнага соцыялістычнага будаўніцтва. Контрасты. Першая конная. Армія, якая авеяна пяшчотамі ўсіх працоўных краіны Саветаў. Першая конная, народжаная ў крывавым змаганні з усімі ворагамі пролетарыяту. З поўначы і поўдню, с захаду і ўсходу, з усіх куткоў нашага шматнацыянальнага Саюзу Саветаў ішлі барацьбіты ў армію абароны заваёў пролетарскай дыктатуры.

Эпізоды на экране. Эпізоды на сцэне. Яшчэ і яшчэ раз аднаўляюцца ў нашай памяці асобныя дэталі героічнага мінулага, калі голымі, босымі, галоднымі і змучанымі ішлі сотні тысяч лепшых сыноў рабочых





...ялян, каб сваёю крывёю купіць сва-
...боду для дзесяткаў і сотняў мільёнаў
...гарапашных мас.

І хоць часам здаецца, што рэжысэр занадта доўга фіксуе ўвагу гледача на асобныя дэталі царскае казармы — і хоць часам здаецца, што рэжысэр занадта расьцягнуў асобныя эпізоды, — і хоць часам хацелася-б, каб рэжысэр хутчэй павёў-бы вас па наступных эпізодах эпопеі (так, так, не п'есы, а эпопеі), — усе-ж трэба сказаць, што наш Другі Беларускі Дзяржаўны Тэатр, які паставіў на сваёй сцэне „Першую конную" Ус. Вішнеўскага, узбагаціў наш тэатральны рэпэртуар гэткай патрэбнай і карыснай пастаноўкай, якая сапраўды мастацкім паказам мобілізуе працоўныя масы да справы абароны нашых заваёў ад новага нападу імпэрыялістаў.



Мастацкімі вобразамі варочае нас „Першая конная" ў дарэволюцыйнае мінулае да таго, каб узброіць нас агідай да таго, да чаго нас цягнуць Рамзіны, Ластоўскія і ўсякага рода іншыя шкоднікі і опортуністы. І гэтая самая „Першая конная" нас зноў пераносіць у пару нараджэньня першай коннай арміі Сталіна, Варашылава і Будзёнага, для таго, каб, паказаўшы за што мы змагаліся, узброіць нас рэволюцыйным энтузіязмам да барацьбы на франтох соцыялістычнага будаўніцтва і яшчэ раз напомніць, што трэба трымаць порах сухім, бо сусьветны імпэрыялізм хоча ўдарыць нам у сьпіну, каб сарваць пабудову соцыялізму ў СССР.

# ДА НАВЕДВАНЬНЯ ЧЫРВОНАГА ФЛЁТУ

Нарыс Р. КАЛЬТОФЭНА

ГЛЫБОКА ўрэзваецца Чорнае мора ва ўзгоркавы край. Тут, у вузенькай бухце Сэвастопальскага порту, калыхаецца Чырвоны флёт. Праз вуліцы, што струменяць паўднёвым стракатым жыцьцём, мы спускаемся да набярэжнай. Мяккі вецер дзьме з мора. У той час, як Маскву абдымае лёдавая сьцюжа, тут цёпла сьвеціць яркае сонца, неўзабаве зацьвітуць і сады.

Каркас нясе нас да сталёвых, шэрых гігантаў: да крэйсэраў. Матросы „Парыскай Комуны" чакаюць нас. Нас сустракаюць, і, перасекшы бліскуча-вычышчаную палубу, мы спускаемся стромкімі сходкамі ўніз. У кубрыку нас сустракаюць сардэчныя пацісканьні рукі. Адзін з матросаў коратка вітае нас. Тав. Бэла Ільлеш, які быў разам з намі, гаворыць пасьля яго. Ён больш ня чужы матросам, ня гледзячы, што большасьць бачаць яго ўпяршыню, яны ведаюць яго творы. Пажынае жвавыя аплёдысмэнты яшчэ і наш таварыш, рэдактар з Франкфурта, які лечыцца ў Крыму.

Потым нам паказваюць крэйсэр: то ўгору, то ўніз па сталёвых праходах і памяшканьнях. Досыць доўга затрымліваемся мы ў „сэрцы крэйсэра"—у кабіне, з якой у часе бою разносяцца загады па ўсім судне. Мноства правадоў. трубак, выключальнікаў шчыльна пераблыталіся ў ёй. У клюбе мы адпачываем ад бачанага. Шмат шахмат, доміно, кніг, газэт. У чырвоным кутку вісіць портрэт Леніна.

„Наш клюб дужа маленькі", гаворыць суправаджаючы нас таварыш, „Парыская Комуна" стары крэйсэр даваеннага часу, які, праўда, мае толькі новыя машыны, але яго нельга перарабіць так, як гэта было-б пажадана".

Куток з кавалкамі скуры, падэшвамі, напаўгатовымі ботамі зварочвае да сябе нашу ўвагу. Таварыш растлумачвае: падарунак шэфа—фабрыкі. Заводзкі колектыў жыве ў сталай карэспондэнцыі з экіпажам крэйсэра. Кожны крэйсэр мае за шэфа які-небудзь завод. Сталая сувязь моцна зьвязвае заводзкіх рабочых з чырвонымі матросамі.

Нарэшце мы наведалі вольных ад службы матросаў у кубрыку. Яны былі за працай: малявалася, пісалася, клеілася насьценная газэта, складаўся плян пазашкольных заняткаў (культработа ў Чырвоным флёце стаіць на першым месцы). Ня гледзячы на тое, што нас суправаджаў камандзір, ніхто не варухнуўся: апроч службы камандзір зьяўляецца толькі таварышом. Але таксама і на службе ня было лішняга чынапачытаньня. Усе камандзіры з былых рабочых. Камандзір „Парыскай Комуны" і шмат якія іншыя камандзіры ў часе вайны былі простымі матросамі на гэтым-жа крэйсэры.

Пасьля таго, як мы агледзелі крэйсэр, нас запрасілі да добрага і смачнага абеду. Камандзіры і матросы атрымлівалі аднолькавую ежу.



Калі мы сабраліся ад'яжджаць, матросы зноў пыталіся ў нас, немцаў—„Як адносяцца нямецкія рабочыя да нас? Ці ведаюць яны, што мы жывем разам з імі і іх рэволюцыйным змаганьнем?" І ўсе зноў прасілі нас: „Перадайце ад нас ім прывітаньне, скажэце ім, што мы зьяўляемся іхнім флётам, флётам рэволюцыі".

Калі каркас быў ужо ля берагу, пачулі мы раз: „Перадайце прывітаньне нямецкаму пролетарыяту".





# БЕЛАРУСКІ ТЫДЗЕНЬ У МАСКВЕ

Нарыс

Іл. БАРАШКІ

ДРУГІ дзень рашаючага году.

— Сёньня ў нас гістарычны, асабліва выдатны дзень.

Гэтыя словы былі сказаны ў Доме Комуністычнай Асьветы, у Менску, напярэдадні ад'езду ўсебеларускай дэлегацыі на тыдзень Савецкай Беларусі ў Маскве.

— Рэспубліка едзе! Едзе ў Маскву, у чырвоную сталіцу пролетарыяту Савецкага Саюзу, пролетарыяту ўсяго сьвету, дэманстраваць свае посьпехі на ўсіх фронтах соцыялістычнага будаўніцтва.

Дэлегаты: ударнікі-рабочыя, ударнікі-колгасьнікі, пісьменьнікі, музыкі, мастакі, артысты, навуковыя работнікі, прадстаўнікі друку, партыйныя работнікі. Едзе ўдарная брыгада ў складзе больш за дзьвесьце пяцьдзесят таварышоў, якая па праву, заваяванаму ў штодзеннай барацьбе за Беларусь соцыялістычную, за ўдарную Беларусь, заўтра ў чырвонай сталіцы мае прадстаўляць сабою рэспубліку, Савецкую Беларусь, форпост Савецкага Саюзу на захадзе, на мяжы з трухлявым, капіталістычным сьветам.

Задачы: продэмонстраваць перад працоўнымі ўсяго сьвету адзінства пролетарыяту Савецкага Саюзу, паказаць пролетарам чырвонай сталіцы на нашы дасягненьні, устанавіць больш цесную, братнюю сувязь паміж братнімі пролетарскімі культурамі, нанесьці рашучы ўдар па вялікадзяржаўным шовінізьме, нанесьці рашучы ўдар па контррэволюцыйным беларускім нацыянал-дэмократызьме, з яго орыентацыяй на буржуазную культуру, на фашыцкі Захад.

І калі Менск патанаў у начной цемры, зірката паглядаючы электралямпачкамі з новых пабудаваных за часы соцыялістычнага будаўніцтва — „Энэргіі", „Комунара", „Бальшавіка", „Кастрычніка", „Беларусі", з новых камяніц Унівэрсытэцкага гарадка,—наш цягнік крануўся ў дарогу: Менск—Масква.

У вагонах нясьціхана гучаць песьні новых, нашых артыстаў, песьні рабочых з самадзейных гурткоў. Пісьменьнікі ды навуковыя работнікі—да чаго народ спакойны, ураўнаважаны, ды і то ня стрымаліся, каб не падхапіць баявыя песьні „Далёка-Ўсходняй". Зычна плыве па вагону:

Нас пабіць, пабіць хацелі,  
Нас пабіць стараліся,  
Мы-ж таксама не сядзелі.  
Мы падрыхтаваліся!

Чырвоная Масква спаткала беларускую дэлегацыю дэманстрацыяй на пэроне вагзалу, спаткала лёзунгамі, якія віталі Савецкую Беларусь, спаткала прывітальнымі прамовамі на Вагзальным пляцы. З трыбуны віталі:

— Оргкамітэт Комуністычнай Акадэміі.

— Маскоўскі Савет.

— 2000 рабочых Чырвонай Прэсьні.

— Фэдэрацыя Савецкіх Пісьменьнікаў РСФСР.

У адказнай, першай прамове, старшыня дэлегацыі сказаў:

— Наша рэспубліка, Савецкая Беларусь, раней поўкалёнія расійскага імпэрыялізму, а сёньня трэцяя братняя рэспубліка магутнай цытадэлі соцыялізму—Савецкага Саюзу, на руінах імпэрыялістычнай вайны, на руінах, пакінутых нам пасьля нямецкай окупацыі і белапольскага панаваньня, адбудавала сваю гаспадарку і ўступіла ў рэконструкцыйны пэрыод ва ўмовах жорсткага клясавага змаганьня. Мы будуем новыя соцыялістычныя прадпрыемствы, новыя фабрыкі хлеба—колгасы і савецкія гаспадаркі, мы творым новую пролетарскую культуру. Мы дбаем аб нашай слаўнай Чырвонай арміі.

Праз гукі ўрачыстага „Інтэрнацыяналу" чуцен лёзунг, сказаны прамоўцай:

— БССР была, ёсьць і будзе верным форпостам Савецкага Саюзу.

І ў той-жа вечар, а гэта было трэцяга студзеня, урачыста адчыніўся ў вялікай прасторнай залі Комуністычнай Акадэміі Савецкага Саюзу тыдзень Савецкай Беларусі ў Маскве.

Удзельнікі таго ўрачыстага, сьвяточнага вечару, кожны з дэлегатаў ніколі не забудзе палкай, гарачай, уздымаючай, героічнай прамовы старога бальшавіка, таварыша Фэлікса Кона.

Стары герой слаўных паходаў гаварыў з запалам юнака. Ён гаварыў, што яму асабліва прыемна даручэньне, якое выконвае ён, адчыняючы тыдзень Савецкай Беларусі ў Маскве. Ён успамінаў героіку грамадзянскай вайны, героіку барацьбы за Беларусь Савецкую, гаварыў пра мірнае пашырэньне межаў Савецкай Беларусі ў 1924 годзе, ён перадаў з надзвычайным абурэньнем гневу ўсю трагічнасьць становішча працоўных у фашыцкай Польшчы Пілсудзкага, у Заходняй Украіне, у Заходняй Беларусі.

— Мы порах трымаем сухім,—казаў Фэлікс Кон,—і калі імпэрыялісты паспрабуюць напасьці на нас, мы ім пакажам, як можа пролетарыят бараніць свае межы...

Заля некалькі разоў перарывае прамову старога бальшавіка Фэлікса нясьціханай овацыяй.

Дакладчык на сходзе—сакратар ЦК КП(б)Б тав. Шаранговіч. Ён дакладвае чырвонай сталіцы аб росьце прамысловасьці, колектывізацыі, аб абвастрэньні клясавай барацьбы, аб дасягненьнях у галіне правядзеньня ленінскай нацыянальнай політыкі, аб барацьбе з ухіламі ад генэральнай лініі партыі. Заля ўважліва выслухоўвае даклад. Прывітаньні.

Прадстаўнікі мастацтва—артысты дэмонструюць свае дасягненьні.

Позна скончыўся сход. Назаўтра маскоўскія газэты далі на сваіх палосах першыя сводкі аб нашым прыезьдзе:

— Прыезд беларускіх дэлегатаў — гістарычны момант у жыцьці народаў Савецкага Саюзу. У Саюзе Саветаў Беларусь зьяўляецца тым форпостам, якому прыдзецца прыняць першы ўдар ворага. Але мы спакойныя. Мы памятуем героізм рабочых Беларусі ў 1920 годзе, у барацьбе з белапалякамі. Мы ўпэўнены, што і ў будучыні, у выпадку нападу на Савецкі Саюз, працоўныя Беларусі разам з намі дадуць адпор нашаму ворагу. „Тыдзень Савецкай Беларусі“ азнаёміць з вялічэзнымі дасягненьнямі нашай братняй рэспублікі. У Беларусі ёсьць чаму павучыцца.

Гэта—урывак са стэнограмы прамовы Фэлікса Кона, зьмешчанай чацьвертага сьнежня ў маскоўскіх газэтах.

Тыдзень пачаўся. На прадпрыемствах, у рабочых клюбах, у тэатрах—дэмонстрацыя нашых посьпехаў, азнаямленьне маскоўскага пролетарыята з Савецкай Беларусьсю.

У Малым Мастацкім Акадэмічным Тэатры працуе Першы Беларускі Дзяржаўны Тэатр; у кіно-тэатрах—фільмы Белдзяржкіно.

У Політэхнічным музэі—выстаўка дасягненьняў.

Перапоўненыя залі ў тэатры, у кіно. Воплескі. Сотні экскурсантаў на выстаўцы. Гэта якраз і паказвае на нашы посьпехі, на зацікаўленасьць нашым мастацтвам, нашым жыцьцём, нашым змаганьнем.

І ўдзень, і ўвечары штодня адбываюцца выступленьні.

Дзе?—На фабрыках і заводах.

Дзе?—У рабочых клюбах.

Дзе?—У тэатрах і студыях радыё-станцый.

Комакадэмія, клюб „Чырвоны Кастрычнік“, завод „Серп і Молат“, Дом Саюзаў, клюб ФОСП, завод „Дынамо“, Дом Чырвонай Арміі, украінскі клюб, клюб тэатральных работнікаў, клюб „Пролетары“, Вялікі Тэатр, Міжнароднае Радыё, клюб „Работніца“, клюб чыгуначнікаў, колённая заля Саюзаў, дзелавы клюб СНГ, комуністычны клюб усіх народаў, „Трохгорная мануфактура“, клюб Мэдсанпрацы, клюб „Чырвоная Роза“, вайсковая школа, клюб харчавікоў, яўрэйскі клюб „Комуніст“, КУНМЗ, Дом друку, клюб імя Русакова, цэнтральны польскі клюб імя т. Мархлеўскага...

Чытачу цяжка чытаць пералічэньні і таму спыняемся на гэтым.

Вынік: звыш с т а  т ы с я ч маскоўскіх пролетараў на працягу тыдню бачылі, чулі, адчувалі ў сябе на прадпрыемстве, у сябе ў клюбе Савецкую Беларусь — як братнюю рэспубліку ў працэсе соцыялістычнай будоўлі.

Сьмешна было-б ставіць пытаньне—ці дасягнуты задачы пастаўленыя перад правядзеньнем тыдню.

Маскоўскі рабочы ведаў і ведае Беларусь. Хто, калі ня ён, у часы імпэрыялістычнай вайны рыў акопы і гібеў у іх? Хто, калі ня ён, разам з рабочымі Беларусі ў 1917 годзе ствараў Кастрычнік на Заходнім фронце? Хто, калі ня ён, у часы грамадзянскай вайны, у часы змаганьня з бандытызмам разам з беларускімі рабочымі і працоўным сялянствам бараніў Савецкую Беларусь, бараніў дыктатуру пролетарыяту. І таму ён ведаў Беларусь зруйнаванай краінай.

Тыдзень Савецкай Беларусі паказаў маскоўскаму рабочаму другую Беларусь—соцыялістычную краіну з посьпехамі па ўсіх фронтах будаўніцтва. Такою сёньня ведае маскоўскі рабочы Беларусь.

Але маскоўскі рабочы таксама ведае і тое, што, адначасова з правядзеньнем у Маскве тыдню дасягненьняў Савецкай Беларусі, у Вільне адбываўся таксама „тыдзень“, тыдзень працэсу над беларускімі працоўнымі масамі Заходняй Беларусі, наладжаны дэфэнзывай і фашыцкім судом...

З усіх шматлікіх спатканьняў дэлегацыі Савецкай Беларусі неабходна адзначыць асобна —

спатканьне рабочых-ударнікаў Савецкай Беларусі з рабочымі-ўдарнікамі чырвонай Масквы. Спатканьне, наладжанае ў Колённай залі Дому Саюзаў, ператварылася ў магутную дэмонстрацыю адзінства пролетарыяту, у дэмонстрацыю творчага энтузіязму рабочае клясы ў выкананьні пяцігодкі ў чатыры гады;

— спатканьне дэлегацыі Савецкай Беларусі з урадам, з членамі III Сэсіі ЦВК Савецкага Саюзу, якая адбывалася ў Маскве адначасова з правядзеньнем тыдню;

— спатканьне беларускіх пісьменьнікаў з расійскімі пісьменьнікамі, дзе абгаварвалася пытаньне абмену дасягненьнямі пролетарскай літаратуры, дзе абгаварваліся пляны перакладаў твораў беларускіх пісьменьнікаў на расійскую мову;

— спатканьне ўсёй дэлегацыі са старшынёю ЦВК Савецкага Саюзу М. І. Калініным. Пры сустрэчы з М. І. Калініным выступала багата прадстаўнікоў дэлегацыі.

Выступалі рабочыя, колгасьнікі, навуковыя працаўнікі. Выступала работніца фабрыкі „Дзьвіна“.—Я ўжо звыш трыццаці год працую на фабрыцы,—казала работніца,—і маю права перайсьці ў інваліды. Але я гэтага не раблю. Я ведаю, наколькі патрэбны краіне Саветаў кваліфікаваныя рабочыя рукі. І я дала падпіску не пакідаць фабрыкі да канца пяцігодкі...



т. ФЭЛІКС КОН
да 45-годзьдзя яго рэволюцыйнай дзейнасьці

Гэтыя словы былі сказаны работніцай, якая на старасьці год ліквідавала сваю няпісьменнасьць і зьяўляецца актыўнай, сьвядомай работніцай. Ці не гаворыць гэты факт аб нашых дасягненьнях?

Дзесятага студзеня адбыўся ўрачысты вечар у Вялікім Тэатры. Тыдзень скончыўся. Лёзунгі, плякаты, дыяграмы на маскоўскіх плошчах яшчэ гавораць аб тыдні. Прэса яшчэ друкуе матэрыял тыдню. Дэлегацыя выяжджае ў Савецкую Беларусь на свае фабрыкі, заводы, колгасы, у свае ўстановы, каб там, разам з усімі працоўнымі Савецкай Беларусі, перабудоўваць краіну, ствараць соцыялістычную культуру, мастацтва, музыку...

Сынтэзую свой нарыс вогненнымі радкамі „Праўды“.

— „Кастрычнікавая рэволюцыя, накіраваная супроць усіх відаў соцыяльнага прыгнёту і эксплёатацыі, нанесла руйнуючы ўдар і політыцы нацыянальнага прыгнёту, стварэньня прывілеяў для пануючай нацыі, распальваньня варожасьці паміж народамі, якая практыкавалася гнуснай памешчыцка-капіталістычнай зграяй для захаваньня свайго панаваньня. Цяпер нават нашы ворагі ня могуць не прызнаваць вялічэзных дасягненьняў, якіх савецкая ўлада дамаглася ў правядзеньні ленінскай нацыянальнай політыкі. Абсолютна выключных посьпехаў у справе фактычнага ўраўнаньня працоўных розных нацыянальнасьцяй дамаглася партыя за першыя два гады пяцігодкі. На грунце бурных тэмпаў індустрыялізацыі ў былых краінах царскай Расіі нацыянальныя рэспублікі і вобласьці шпарка падцягваюцца да экономічнага ўзроўню перадавых прамысловых раёнаў краіны, растуць кадры мясцовага пролетарыяту, магутна разгортваецца будаўніцтва соцыялістычнай культуры ў нацыянальных формах. Трэці год пяцігодкі, які завяршае пабудову падмурка соцыялістычнай экономікі Савецкага Саюзу, стварае ўмовы д л я  я ш ч э  б о л ь ш  р а ш у ч а г а  к р о к у  н а п е р а д  у  с п р а в е  к а н ч а т к о в а й  л і к в і д а ц ы і  р э ш т а к  э к о н о м і ч н а й  н я р о ў н а с ь ц і“.

Савецкая Беларусь у трэці рашаючы год пяцігодкі ўступіла правядзеньнем свайго тыдню дэмонстрацыі ў чырвонай сталіцы.

Усе сілы, усе сродкі на пасьпяховае выкананьне пляну трэцяга году.

Наперад, і толькі наперад—да новых перамог!

# Сярод узгоркаў і палёў

Нарыс

Баз. Румянец

Ад станцыі Дрэтунь на Полаччыне да гуты лічыцца 18 кілёмэтраў. Вузкая дарога віецца бязьмежнай істужкай па ўзгорках, хмызьняках, палянах з раскіданымі вёскамі і асобнымі прыземістымі хацінамі, потым крута вырываецца з зялёных абдымкаў хвойніку, і перад вачыма расьцілаецца рабочы пасёлак. Зблытаныя крывыя вуліцы апавіты электрычнымі правадамі. І толькі новыя дамы рабочых сталі роўнай стройнай шарэнгай. Неяк сапраўды пахне прадмесьцем якога-небудзь прамысловага гораду.

Тут-жа над невялікім возерам, ібы з зямлі, вырастае высокі цагляны комін, слупамі лёгкага дыму вымерваючы вышыню неба. Дзеравяны корпус гуты вачыма вялікіх вокан акідвае акаляючую шырыню неабдымных палёў.

Дзень і ноч дыміцца высокі комін, абкурваючы блакіт дымнымі воблакамі, і кожнае раньне на вакзал падводамі накіроўваюцца новыя і новыя скрынкі гатовага аконнага шкла. Толькі адзін раз за ўвесь год на месяц або паўтара спыняе гута сваю працу для халоднага рамонту. А так—вечна дыхае гарачынёй велізарная ванная печ, растапліваючы падрыхтаваны загадзя матэрыял. Над раскіданым рабочым пасёлкам праносяцца гулкія заклікаючыя пералівы гудкоў.

Каля 700 рабочых занята працаю на гуце. Для ўмоў Полаччыны гута зьяўляецца даволі вялікім рабочым асяродкам.

## 1. Шклодувы

Паджылы і разам з тым яшчэ энэргічны і рухавы дзядзька Мікіта дваццаць гадоў працуе шклодувам. Горача палюбіў ён гуту, зрадніўся, падружыў з ёю і ня мае ніякага жаданьня разьвітацца са сваім варстаком. Доўгімі зімовымі адвячоркамі, калі на замерзлым возеры гуляе мяцеліца, а тымчасам ванная печ кідае водблескі яркага ружовага сьвятла, прыходзіць Мікіта на гуту, адпачнуўшы дома пасьля дзеннай работы, і садзіцца воддаль ваннай печы. Цёпла, сьветла і прытульна.

Любуецца Мікіта жыцьцём гуты, сам жыве і дыхае ім. Інакшым, праўда, стала гэтае жыцьцё, чым было раней. Парадак, прыкладная організаванасьць напаўняе дзеравяны корпус. Халяўны, родны Мікітаў цэх, ідзе першым па ўдарніцтве. Дваццаць чалавек шклодуваў другой зьмены ўважліва і пільна заняты сваёй справай. Ні размоў, ні прастояў. Кожны з іх трубкай вымае кавалак вадкай агнёвай масы і дзьме. Палаючая маса астывае і раздуваецца шклодувам, як вялізны мыльны пузыр. Момант, і халява гатова. Разносчыца падхоплівае халяву і нясе яе на пракольны круг для апальваньня.

Ударніцкі рух дае свае даволі выразныя вынікі. Па крайняй меры, кожны шклодуў на 15, а то і 20 халяў выпрабляе больш, чым раней. І гэта заносіцца штодзенна на дошку соцыялістычнага спаборніцтва, якая павісла тут-жа каля ваннай печы.

І часта дзядзька Мікіта, гаворачы з другімі, успамінае нядаўнае мінулае, калі амаль кожны дзень сустракаліся такія моманты. Зайдзе калі-небудзь селянін на гуту падзівіцца, як атрымліваюцца халявы і як прыгожа зьзяе печ расплаўленай масай. Зайдзе і разявіўшы рот стане каля шклодуваў. Апошнія-ж на жарты ахвотны.

— А ну, дзядзька, на, падзьмі—запрапануе які-небудзь шклодуў селяніну, а сам намажа канец трубкі мазьзю.

— Давай,—радасна згаджаецца селянін, а калі захопіць ён поўны рот мазі, заліваюцца тады рогатам шклодувы.

— Ого-го-о! Га-га-а!—нясецца па халяўным цэху, а пакрыўджаны селянін з выглядам пабітага ваўка ідзе да дзьвярэй.

Ды ці такія яшчэ штукі выкідвалі шклодувы і наогул рабочыя гуты. Ад гэтага больш павялічваўся брак, паніжалася інтэнсыўнасьць.

Адышлі ўжо такія моманты, зьніклі кудысьці назаўсёды. І радуецца дзядзька Мікіта, радуецца строгі загартаваны партыец-шклодуў Шакаліда, радуюцца ўсе шклодувы посьпехам свайго цэху, бо гэтыя посьпехі зьяўляюцца штурхачом соцыялістычнага спаборніцтва на ўсёй гуце.

## 2. Шлакоўка

— Пад ваннай печчу, там, унізе пад зямлёй, знаходзіцца гэтая самая шлакоўка,—з ледзь прыметнай усьмешкай растлумачвае нам сакратар заўкому гуты таварыш Рыгораў, бойкі і жвавы комсамолец,—калі хочаце папарыцца, дык хадзем туды...

Нешта накшталт тунэлі вядзе пад зямлю, пад корпус заводу, туды пад ванную печ. Яшчэ здалёк сустракаешся з вострымі павевамі гарачага паветра. У шлакоўцы пры печы, куды асы-



паецца зьверху вугальле апалу. Вугальле час-ад-часу пераварочваецца, ператрухаецца доўгімі качэргамі. Кожную зьмену тут працуе тры рабочых.

Гарачыня надзвычайная. Паміж печамі на працягу трох хвілін полымем загараюцца скураныя сподкі, а над шлакоўкай, як шалёная, бушуе, гуркочаючы расплаўленае шкло ваннай печы. Праз вузенькія, вузенькія шчыліны цаглянай столі відаць крыху палаючая маса. Глянеш туды, і мімаволі агортвае цябе подых якогасьці страху.

— Між іншым, тут адна з цяжэйшых работ,—ахвотна апавядае нам сакратар заўкому.—Простая, праўда, работа, але гарачыня вось, недахоп сьвежага паветра перашкаджае. Р ней, казалі старыя рабочыя, сюды заганялі кітайцаў, прымушаючы іх працаваць па 10, а то і па 12 гадзін. Канешне, пры такіх умовах доўга не пажывеш. Толькі пасьля рэволюцыі тут уведзены шасьцігадзінны рабочы дзень. Апроч таго, на бліжэйшы час мы ўстанаўляем тут спэцыяльныя вэнтылятары. Умовы, бязумоўна, паляпшаюцца.

## 3. Прарыў

Якраз і пачалося са шлакоўкі.

Дзікай трывогай загудзеў гудок над рабочым пасёлкам, яму адклікнуўся гудок заводзкай электрастанцыі. Зазванілі пажарнікі. Строгі акорд баявой трывогі зьвінеў над возерам, імчаўся над хмызьнякамі, пералескамі да акаляючых вёсак.

— Прарыў... Трывога...—гаварылі рознастайныя галасы пранізьлівых гудкоў.

— Чуем... Ідзем...—адказвалі рабочыя, сьпешна па-баявому зьбіраючыся да гуты.

У ваннай печы прарвалася дно, і вадкая агнёвая маса шкла заліла шлакоўку. Значыцца, само сабой: прарыў, халодны месячны рамонт, недавыкананьне прамфінпляну. А галоўнае, усё здарылася так нечакана.

Дырэктар гуты тав. Маслоўскі рукамі хапаўся за галаву, нэрваваўся.

— Ужо і так маем прарыў: каля 700 тон шкла ня вывезена з гуты, дзякуючы неналаджанасьці транспорту. А тут, на табе, яшчэ з ваннай печчу аварыя. Дзе былі вочы тэхнічнага пэрсоналу, куды глядзела тэхнічнае кіраўніцтва?.. Э, ды што там!..

Маслоўскі рашыў не займацца, нарэшце, разважаньнямі. Патрабавалася хуткая мобілізацыя ўнутраных сіл гуты. Аварыя ваннай печы і 700 тон гатовага шкла чорнай хмарай нежаданага прарыву павісьлі над гутай. Кожная хвіліна маруджаньня пагражала ганебнай плямай адбіцца на выкананьні прамфінпляну. І тады партыйная організацыя разам з кіраўніцтвам гуты рашыла, не чакаючы дапамогі з боку, сіламі сваіх рабочых змагацца з прарывам.

— Мобілізавацца!—загадала кіраўніцтва гуты і бюро партколектыву.

— Гатовы!.. — адгукнуліся дружнымі галасамі рабочыя.



## 4. Перамога

Пры звычайных астаноўках на халодны рамонт рабочыя бяруць чарговы месячны адпачынак і разьяжджаюцца куды каторы. Застаецца-ж на гуце адна брыгада, якая і выконвае работы па рамонце. У час-жа гэтага прарыву пра адпачынкі і размовы нельга было весьці. Першымі паказалі прыклад ударных тэмпаў партыйцы і комсамольцы. Не зважаючы ні на якія абставіны, пайшлі яны, організаваўшы моцныя ўдарныя брыгады, на гуту. Іхняму прыкладу пасьледвалі і астатнія рабочыя.

Тэрмінова ачышчалася шлакоўка ад шкла. Жонкі рабочых, добраахвотна прышоўшыя на работу, цягалі тачкі, праводзілі ачыстку памяшканьня гуты. Спэцыяльная ударная брыгада пад кіраўніцтвам інжынэра рамантавала дно ваннай печы, уважліва аглядаючы ўсю ванную печ, з мэтай забясьпечаньня гуты ад далейшых аварый.

З дапамогай раённых організацый дасталі 10 трактараў для падвозкі шкла да вакзалу. Склады і вялікія залежы скрынак гатовай продукцыі пачалі разгружацца.

Жыцьцё гуты перабудавалася на новыя ўдарныя рэйкі. Рабочыя абвясьцілі сябе мобілізаванымі і з гонарам несьлі гэты абавязак. Працавалі бальшавіцкімі мэтодамі, разгортваючы паміж асобнымі брыгадамі соцыялістычнае спаборніцтва. Здавалася, кожны рабочы хварэў ад прарыву і напружваў усе сілы, каб пазбавіцца ад гэтага цяжару.

Ударнай работай кіпела гута.

Організаванасьць і згуртаванасьць рабочага колектыву скарацілі прызначаны тэрмін рамонту на 5 дзён. Дно ваннай печы было адрамантавана, усё памяшканьне гуты ўпарадкавана. Перамога над прарывам была забясьпечана.

І аднойчы раніцой...

Па-звычайнаму даўно знаёмым заклікаючым голасам паклікаў гудок на работу, абяцаючы нормальнае і прывычнае жыцьцё гуты. Ізноў задыміў комін, абкурваючы нявымерную глыбіню неба дымнымі воблакамі. І голас гудка быў падобны на песьню пад жаданай і захапляючай назвай:

— Перамога-а-а...

У памяшканьні-ж канторы заводу на паседжаньні бюро партыйнага колектыву здаволены Маслоўскі дакладваў:

— Можна лічыць прарыў ліквідаваным... Гута працуе...

---

Так сярод узгоркаў і палёў глухой Полаччыны жыве, дыхае ня толькі гарачынёй расплаўленага шкла, але і гарачынёй бальшавіцкіх тэмпаў, гута. Пашыраецца рабочы пасёлак, узрастаюць новыя дамы, паляпшаюцца бытавыя ўмовы рабочых, глыбей укараняюцца соцыялістычныя мэтоды колектыўнай працы.

Узрастае і значэньне гуты для будаўніцтва Савецкай Беларусі. Дырэктар гуты тав. Маслоўскі апавядае:

— Мінулагодняя заказы на шкло былі выключна амаль з Ленінграду і Украіны. Сёлета-ж зусім інакш. 75 процантаў нашай продукцыі разыходзіцца выключна па Савецкай Беларусі, гэта значыцца, на будаўніцтва. І мы тымчасам ня толькі не скарачаем сваю вытворчасьць, а, наадварот, як бычыце самі пашыраем яе. Гэтай самай вось лёгічнай сувязьзю сам адчуваеш, наколькі мы расьцем, наколькі шырыцца наша соцыялістычная будоўля...



# УСЕАГУЛЬНАЕ НАВУЧАНЬНЕ



Былыя бяспрытульныя слухаюць перадачу



Працуюць у ленінскім кутку

БССР — першая рэспублік Саюзу Саветаў увяла ў сябе ўсеагульнае навучаньне. Няпісьменныя, адсталыя, някультурныя царскія заднарусы, скінуўшы ўладу „сваёй" і „чужой" буржуазіі, хочуць стаць культурнымі будаўнікамі сваёй соцыялістычнай дзяржавы.

Савецкая Беларусь, якая знаходзіцца на мяжы з капіталістычным сьветам, павінна ў магчыма карацейшы тэрмін дагнаць і перагнаць культурны Захад. Ленін гаварыў, што з няпісьменным народам соцыялізму пабудаваць ня можна. Вось чаму, будуючы соцыялізм, мы штурмуем навуку, мы ліквідуем няпісьменнасьць сярод дарослых, мы не шкадуем сродкаў на ўсеагульнае навучаньне ўсіх дзяцей.

Нашы дзеці жывуць у лепшыя часы, чымся іх бацькі. Політэхнізацыя, якая праводзіцца, пачынаючы з першых гадоў вучобы аж да унівэрсытэтаў, дае вучню поўныя ўяўленьні аб усіх этапах вытворчасьці, тэхнікі і буйнейшых волатаў індустрыі і аграномії. Мы тут паказваем малюнак школы, дзе дзеці самі, на свае ўласныя сродкі, закупілі і наладзілі радыё-перадачу. Але дзеці ў гэтай школе, ня толькі знаёмяцца з тэхнікай, у якой, паміж іншым, яны выказваюць вялікую вынаходлівасьць, але і надзвычайна добра даглядаюць фруктовы сад, школьны агарод і іншую школьную гаспадарку.

Школьнікі багата ўдзельнічаюць у рознага роду грамадзкіх кампаніях. Мы прыводзім тут здымак вучняў гуртка бязбожнікаў Сталінграду, якія ў часе каляд пасьпяхова чыталі даклады на антырэлігійныя тэмы ў рабочых клюбах.

Фізкультура, асабліва лыжны спорт, займае пачэснае месца ў школах. Ужо ёсьць багата колгасаў, якія закупілі лыжы для сваіх школьнікаў, каб ім лягчэй было езьдзіць у школу.

Аднак на фронце ўсеагульнага навучаньня мы маем прарывы, якія гавораць аб тым, што ня ўсе яшчэ як сьлед уявілі сабе значэньне гэтае справы; не паўсюды падрыхтаваны памяшканьні для школ, не паўсюды створаны ўмовы, каб насельніцтва разумела абавязковасьць пасылкі дзяцей у школы.

Гэтыя прарывы пры дапамозе ўдзелу ўсёй савецкай грамадзкасьці трэба ліквідаваць. На штурм навукі зьнізу да верху.

Нашы дзеці павінны вучыцца, каб ня толькі дагнаць капіталістычны сьвет, але і далёка пакінуць яго ззаду.



Школьнікі на лыжах



## АДДЗЕЛ ПАДПІСНЫХ і ПЭРЫОДЫЧНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ

# ПАДПІШЫСЯ на 1931

**на адзіны ў БССР ілюстраваны двухтыднёвы часопіс тыпу лепшых ілюстраваных часопісаў СССР**

# Чырвоная Беларусь

**ПАД РЭДАКЦЫЯЙ МІХАСЯ ЧАРОТА**

## У „Чырвонай Беларусі" на працягу 1931 г. будуць зьмешчаны:

**Апавяданьні:** Аралава, З. Бядулі, С. Баранавых, Іл. Барашкі, Вольнага, Тараса Гушчы, Цішкі Гартнага, Платона Галавача, Даўгапольскага, Міхася Зарэцкага, Ізбаха, Васіля Каваля, Элі Кагана, Р. Кальтофэн, М. Кальтофэн, М. Лынькова, Ліманоўскага, Р. Мурашкі, Маўра, М. Нікановіча, Нёманскага, Кузьмы Чорнага, Міхася Чарота і інш.

**Поэмы і вершы:** А. Александровіча, Астапенкі, Янкі Бобрыка, П. Броўкі, М. Багуна, Алеся Звонака, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Крапівы, Максіма Лужаніна, Валерыя Маракова, І. Плаўніка, Юлія Таўбіна, Ізі Харыка, Ул. Хадыкі, М. Хведаровіча, Міхася Чарота, С. Шушкевіча і інш.

**Нарысы і фэльетоны:** Бяліны-Падгаецкага, Бэндэ, Вольнага, Яўгена Жука, Цімоха Зарэчнага, Клімчука, Мікуліча, Васіля Сташэўскага, Шкадарэвіча, Хв. Шынклера.

**Малюнкі і фото:** Ахрэмчыка, Азгура, Бразэра, Булычова, Вал. Болкава, Давідовіча, Кіпніса, Барыса Малкіна, Мазэлева, Ул. Семянякі, Салавейчыка, М. Філіповіча і цэлага шэрагу раённых корэспондэнтаў.

## УСЯГО „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ" ДАЕ Ў ГОД:

звыш 1000 фотоздымкаў, якія ілюструюць соцыялістычнае будаўніцтва СССР і БССР, а таксама замежнае жыцьцё, звыш 300 малюнкаў лепшых мастакоў, звыш 200 апавяданьняў, вершаў і нарысаў.

## „Чырвоная Беларусь" будзе высьвятляць:

самыя шырокія праявы жыцьця, рэконструкцыйнага пэрыяду і магутнага наступу па ўсяму фронту вёскі, соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, змаганьне за пяцігодку ў чатыры гады, колектывізацыю сельскай гаспадаркі і інш.

**Умовы падпіскі:**

| На 1 год | | На 6 мес. | | На 3 мес. | |
|---|---|---|---|---|---|
| р. | к | р. | к. | р. | к. |
| 3 | — | 1 | 50 | — | 75 |

Асобны нумар каштуе **15 к.**

**Падпіска прымаецца:** Аддзелам падпісных і пэрыодычных выданьняў БДВ, Менск, Савецкая, 79; усімі кнігарнямі, кіёскамі і ўпаўнаважанымі БДВ, усімі пашт.-тэлеграфнымі канторамі і крамамі спажыв. коопэрацыі.

Тэлефон рэдакцыі 17-09

Тэлефон бюро падпіскі 17-12

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 297. Галоўлітбел № 1031.